# Літаратурны Дадатак

*Уладзімер Дудзіцкі*

## *Прысяга*

*1*

*Мы крывёю на шляхох стагодзьдзяў*
*[высеклі*
*несьмяротнае імя такое —*
*Беларусь!..*
*Аўтар*

*2*

*І толькі варты той жыцьця й свабоды,*
*Хто кажны дзень за іх ідзе у бой!*
*Гётэ*

### I

Навальніцы зьнішчальная ўлева
напаіла душу маю гневам.

Ён, акрылены, думы пакратаў
і настruніў пад грукат гарматаў;

пад разьлівы агнёў і пажараў,
плач сіротаў і енкі ахвяраў...

Думы словам вазьму апрану я —
няхай слова настрою пільнуе...

Няхай вошчацца подыхам вёснаў
гукі музыкі гнеўна-узьнёслай

і вядуць нас, узяўшы аберуч,
на змаганьне за Волю і Веру!

Калі сэрца крануць і расчуляць —
Маці боль свайго сына пачуе;

боль, што ў грудзі гарачыя выцяў
на зьмярканьні ў разьюшаным спрыце...;

боль і цёплую радасьць спадзеву,
скрыжаваную з сілаю гневу...

Маці скажа: ідзеце сюды вы
слухаць думы жыцьця агнявыя —

думы працы і думы змаганьня,
думы блізкага, сьветлага раньня!

Гэтак час набудзіў і пакратаў
струны сэрца пад грукат гарматаў.

каб у сьціплых фрагмэнтах паэмы
расказаць, як жылі і жывем мы;

каб пад родным, скрываўленым сьцягам
даць Радзіме пакутнай прысягу.

### II

Дарагая мая Радзіма!
Слова песьняю стацца прымусь,
каб яна нашу радасьць пладзіла,
што на сьвеце жыве Беларусь;

і, мінаючы глум і мукі,
на прысуджаным доляй крыжы
несла дзецям тваім і ўнукам
найвялікшае права — жыць!

### III

Ня спляміласся й не заліпла
злачыннасьць грахоў і правін...
Як човен із зарасьляў, выплыў
праз морак гадоў успамін.

Жыцьцё нас і гнула і секла
на часткі і напал — абы
у хітра змайстрованым пекле
пладзіліся й чахлі рабы...

На д'ябальскім чорным экране
жахлівы віднеецца сьлед:
на болем разьятранай ране
Краіны трухлее шкілет...

Шавеляцца жоўтыя косьці,
і чэрап сухі галавы
аб лёсе свае маладосьці
такое гаворыць жывым:

### IV

Як каралі і калечылі — не галасіла,
толькі тварам сінім прыпадала да зямліцы.
Гэтакую, як той камень крамяністы, сілу
мела шчуплагалая у целе маладзіца.

Словам не азвалася да ворагаў ніразу
і павекаў не расплюшчыла. Каму? Навошта?..
Заплаціла Маладзіца катам за абразу
ня чым небудзь, а жыцьцём — найдара-
[жэйшым коштам.

Галасілі ўсе равесьніцы, бацькі, сястрыцы.
Пакатам каціласся над полем галашэньне.
Ля вазёраў нашых сініх, паміж лозаў ніцых
унураўся неўтрапёны пошчак у імшэньнік.

А лясы — бары сунічныя — на хіб зялёны
падымалі і вышэй яго шпурлялі — ўгору,
каб пачулі не адны мы — цэлы сьвет, — мільёны
пра вялікае на Беларусі нашай гора... [ёны

### V

І казалі людзі, і казалі проста:
— Наша шчасьце — за дванаццацю замкамі...
На парозе хаты, на дарозе росту
доля ўзгадавала цяжкі гора камень...

І пыталі людзі, і пыталі шчыра:
— Ці не разьмінецца наша шчасьце з намі?
Ці не закалыша шум трывожны віру
цьвету сноў дзявочых у гаротным найме?..

І чакалі людзі, і сьціскалі скроні:
— А калі-ж мы скажам слова гневу сіле,
каб лягло, як сонца, шчасьце на далоні,
каб жыцьцё людзкое больш не галасіла?..

І казалі людзям поле, лес і зоры:
— Як ня сёньня — заўтра, а 'ткі легчы мусіць,
бо ня заўжды-ж маюць, як чаўны у моры,
трушчыць іклы бураў косьці Беларусі!

### VI

Край дружбы з радасьцяй ня меў:
туга была штодзённай госьцяй.
І голас моўкнуў і нямеў,
як песьні скутай маладосьці.

І маладосьці ня было:
спыніла старасьць на паўкроку...
Яна тугім упала тлом
пласьмя на стоптаным абтоку.

Гайдаў трагічную труну
вятроў халодных час дрыготкі.
І край прыгадваў даўніну,
жыцьцё стваральнікаў і продкаў.

Ня раз братоў маіх, сясьцёр,
на раду ў хату, кажуць, клікаў,
ды ня прыйшлі, бо й сьлед расьцёр
чужацкі лад асокай шпікаў.

Шчымела сэрца. І штодня,
каб крыўду помстай перагрызьці,
у сьцены білася радня —
шукала схованага выйсьця...

Інакшых лекаў анідзе
ня мела ўзяць Радзіма-Маці.
І гурт сям'і яе радзеў
на чорным гора перакаце...

І сьлёзы буйныя цяклі,
паілі пекла мур акуты.
Калі, пытаўся Край, калі
цярпеў хто гэткія пакуты?

Навокал — вусьціш. Ні душы.
І дзесь пад точаным нарогам
нямую цемру варушыў
вар'яцтвам выкліканы рогат...

### VII

Дарогі разьмінуліся на Ўсходзе
і ўперліся ў нямыя тупікі...
Нязвыклымі шляхамі людзі ходзяць,
тасуючы у памяці вякі.

Дванаццаты. Сямнаццаты. Дваццаты —
апошняя, заключная вярста... —
калоцца, цярплівасьцяй напяты,
пад вобразам расьпятага Хрыста.

Нікому і нідзе даўно ня сьпіцца:
тасуюцца у памяці вякі,
і неба нагартованы сьпіцы
ўядаюцца ў нямыя тупікі...

### VIII

Стрэлы чорныя цела зямлі працялі...
Маці родная, сэрцам паслухай,
і скажы сваім дзецям, ці бачыў калі
Край такую ў жыцьці завіруху.

Голас любы, цярэбячы шэрасьць імжы,
азываецца з хваль землятрусу:
— Гэта-ж д'ябалавы рукі ўбіваюць нажы
у сьвятую душу Беларуса...

### IX

Стаім па-над кручай. Сівыя гарбы,
нязломнае сілы грамады,
грукочуць і крышаць сьцен чорных ілбы —
астоі чужацкага ладу.

Зрываюцца буры з патрэсканых скал,
каб яркнулі зоры над пусткай,
каб сьлед ліхадзея агнём спаласкаць
з абшараў зямлі беларускай!

Сягоньня разгон хай ня поўны яшчэ,
ён заўтра патроіцца... Потым
ушчэнт чужаніцы ярмо расьпячэ,
муры, зьнітаваныя потам...

Іх ладзілі доўга найміты-майстры,
хаваючы ганьбу і сорам,
каб кроілі згубныя мору вятры
людзкую ў мурох непакору;,

каб нема стагналі тугія пласты
у лёхах зьдзічэлага ўсходу;
каб цела калечыла лютая стынь
ахвярам крывіцкага роду...

Мацнее пачатая сілаў разьня —
упартае бураў змаганьне.
Пад грывамі пушчаў, чакаючы дня,
стаім ля апошняе грані...

### X

Калісьці сокамі грудзей
жывіла продкаў ты, зямліца.
І нам, каб род не парадзеў,
дазволь пітва твайго напіцца.

З маленства сьнілася у сьне,
было крыніцай дум адзіных.
Яму, як сонцу і вясьне,
маліцца хочам на Радзіме.

На землях выпетралых, дзе
над курганамі вецер вые;
дзе гора едзе на бядзе,
абняўшы дзіды агнявыя...

Дзе, веру росьцячы, браты
за волю кроў зямлі аддалі,
і дзе лунае дух сьвяты,
над мужнасьцяй бунтарных даляў..

Паі-ж нас сокамі грудзей,
як продкаў некалі, зямліца!
Паі! Нас покліч твой вядзе
Табе і Небу памаліцца.

Прымі да споведзі. Вазьмі
прысягу верную. Ад шчасьця
сваімі моцнымі грудзьмі
цябе заслонім ад напасьці!

---

* * *

Мы доўга плылі ў бурным моры,
І ўраз — жаданая зямля!
Вы добра паказалі, зоры,
Зарука ў тым, — трэск карабля.
Што сеў на скалы ў змрочным моры.
Прывет, жаданая зямля!
І бястрывожна бачаць зоры,
Як тонуць людзі з карабля.
1912

—◇—

* * *

Была калісь пара: гучэла завіхруха
І замяла мае мінуўшчыны сьляды.
Усьціхла ўжо яна... Плывуць удаль гады,
А ўсё ня б'юцца крылы духа:
Куды цяпер ісьці? Куды?

Ў душы гарыць агонь нуды, — пануры, чорны,
Ці мне крыніцай сьлёз сваіх яго заліць
І плугам цяжкага мучэньня сэрца ўзрыць? —
Мо ўзыйдуць там надзеі зёрны!
Куды-ж ісьці і што рабіць?
1912

—◇—

### МНЕ СЬНІЛАСЯ

Ўсё вышэй і вышэй я на гару узьбіраўся,
Падыймаўся да сонца, што дае нам цяпло;
Але толькі чым болей да яго набліжаўся,
Тым усё халадней, маркатней мне было.

Зарыпеў сьнег сыпучы пад маімі нагамі,
І марозам калючым твар пякло ўсё крапчэй.
І, пануры, стамлёны, ўніз пайшоў я сьнегамі,
Сонца там хоць і далей, але грэе цяплей!
1911

—◇—

* * *

Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы.
І бязь ясных надзей, бяз трывог,
Загубіўшы апошнія сілы,
Мы зыйдомся, спаткаемся там
І спытаем сябе для чаго мы
Па далёкіх і розных пуцях
Адзінока йшлі ў край невядомы?
І чаму пасьпяшаліся так,
Напружаючы ўсе свае сілы,
Калі, ціха паўзучы, чарвяк
Ўсё-ж дагнаў нас ля самай магілы?
1912

—◇—

### Мадонны

#### У ВЁСЦЫ

*Lumen coeli, sancta rosa!*
*А. Пушкін*

Хвалююць сэрца нам дзявочыя пастаці
І душы мацярок нас могуць чараваці;
Вышэйшая краса — ў іх зьлітнасьці жывой!
Артысты-маляры сьхіліліся прад ёй,
Жадаючы зьявіць цераз свае хусьціны
Пачуцьці мацеркі у вобліку дзяўчыны.
Красы тэй сымбаль, Маці-Дзева, стала ты, —
І глянулі твае спад пэндзаляў чырты.
З таёмным дрыгатам на іх я пазіраю,
А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю.
Мінулае сваё прыпамінаю я!
Між цёмных абразкоў калішняга жыцьця
Шукаю сквапна штось трывожнаю душою,
І здараньне адно ўстае перада мною.

* * *

Калісьці летнюю рабочаю парой
Праз вёску я ішоў. Панурай чарадой
Абапала крывой і вузкай вулкі хаты
Стаялі — шэрыя, струхленыя; як латы,
Значнеліся ў сьцянах сьляпыя вокны іх,
І аж чарнелася салома стрэх гнілых.
Ўсё руйнавалася, старэла, адмірала,
І мала што вакол хоць трохі аздабляла
Вясковую нуду; мак яркія квяткі
Разнакалёрныя, як тыя матылькі,
У градах высыпаў і цешыў імі душу,
Ды можна йшчэ было там-сям пабачыць грушу.
Крывую ды старую... толькі і ўсяго.
І да таго-ж зь людзей ня ўбачыш нікаго, —
Яны на полі ўсе; не мільканець спадніца,
Ня пройдзе зь вёдрамі па воду маладзіца,
Ня ўгледзіш белую магерку мужыка,
Ў паветры не памкне ірзаньне жарабка,
І песьня сумная не паліецца звонка...
Што-ж дзіўнага, калі, раптоўна крык дзіцёнка
Пачуўшы, здрогнуў я і азірнуўся. Ах!
Я спудзіў хлопчыка; на ручках і нагах
Ён, бедненькі, папоўз па траўцы ля сьцяжынкі,
Да нянькі тропячы — так год васьмёх дзяўчынкі.
І вось, дабраўшыся, ў падолак разам к ёй,
З трывожным голасам уткнуўся галавой;
І, як сьхінаецца ад ветру верх бярозкі,
Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася і, сьлёзкі
Сьціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач — зусім, як быццам маць.
І так зьліваліся ў жывы абраз адзіны
Той выгляд мацеркі ды з воблікам дзяўчыны
Дзіцячым, цененькім; і ў гэты час яна,
Здавалася, была аж да краёў пайна
Якойсь шырокаю, радзімаю красою,

XI

Вось і Менск — старажытнае места.
Маршы, песьні і золата вестак . . .

Вось Няміга й Высокая Плошча.
Сонца вусны і думы палошча . . .

Вось жаўнеры і белыя коні,
і абраз старадаўняй Пагоні . . .

✳

**«Бійце ў сэрцы іх, — бійце мячамі,**
**Не давайце чужынцамі быць!**
**Хай пачуюць, як сэрца часамі**
**Аб радзімай старонцы баліць . . .»**

**Маці родная, Маці-Краіна!**
**Ня усьцішыцца гэтакі боль . . .**
**Ты прабач, Ты прымі свайго сына,**
**За Цябе яму ўмерці дазволь!»**

XII

. . . Пасьля доўгіх і цяжкіх разлучын
радасьць стрэчы узрушыць балюча.

І скрыжуюцца вочы і рукі
пад цудоўныя радасьці гукі . . .

У зьняслаўленай бацькаўскай хаце
пачастуе сыноў сваіх маці.

Кроплі чыстыя першае чары
абдадуць цела палкасьцяй вару

і спалошчуць атруту былога
моцным хмелем пітва дарагога.

Гэтак, збыўшы пакуту разлучын,
радасьць стрэчы узрушыць балюча . . .

XIII

Каля сьвятыні, на пагосьце,
пад беларускім родным сьцягам
увесь народ крывіцкі й госьці
пачуюць нашую прысягу.

Мы трэйчы ўкленчым урачыста
і прысягнем Радзіме гучна
ушчунуць рэшту змоў нячыстых,
што прагнуць зганьбіць нашу лучнасьць;

наровяць край наш родны, любы,
дабро й жыцьцё, што бралі з боем,
аддаць на новы зьдзек, на згубу —
у рукі спрытных людабояў.

І прысягнем, на зайздрасьць тлуму,
самім сабе, сьвятлу і веры,
каб ня чыніў манголец глуму
і больш ня стукаўся у дзьверы . . .

XIV

О прысяга, о сіла сьвятая,
дух ваяцкі бы птах узьлятае.

Узьлятае на крылах і кліча
войска грознага лік павялічыць.

Яно прыйдзе і стане зь мячамі,
сіла гневу дзе б'ецца з начамі . . .
дзе ў пякельных агнёх навальніцы
сінь крывёю варожай імгліцца.

Прысягне, скажа шчыра і проста
у часіну ваяцкага хросту:

«Для цябе, беларускі народзе,
сіла збройная волю народзіць!

Ахрысьці на ахвярныя чыны
у змаганьні за славу айчыны!

Маці родная! Вораг ніколі
ня скуе крывёй купленай волі!

О прысяга, о сіла сьвятая,
дух ваяцкі бы птах узьлятае!

✳

Тут, дзе воды Нямігі ўліваюцца ў Сьвіслач,
Сотні год дзе няволя чужацкая вісла —
На зьняслаўленым пляцы разьбітай сталіцы,
Векапомнага Менску, дзе радасьць іскрыцца,
Над касьцямі ахвяраў вялікіх, пад сьцягам
Далі Богу, народу й Радзіме прысягу . . .

✳

**«Ў белай пене праносяцца коні, —**
**Рвуцца, йімкнуцца і цяжка хрыпяць . . .**
**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць!»**

XV

Грымяць і грымяць цягнікі
у бляску гарматных ускліпаў.
Ў трывозе вар'яцкай вякі,
здалося, да зямляў прыліплі . . .

А шлях не кароткі яшчэ —
наперадзе шмат кілямэтраў.
Ляцяць цягнікі ўсё шпарчэй
наўсуперак згубнаму ветру.

У воблік напятай ночы
вачыма ўпіваюцца воі.
Ў тугую ляцяць далячынь
і іхныя думы-настрої . . .

✳

Зыйшліся у грозным бai
вялікія, грозныя сілы.
Радзіма на варце стаіць —
да сну анікога ня хіліць.

Да сьціснуў вільготных прыляж,
адвага, часіну паслухай:
дрыжыць пад нагамі зямля,
прыймае і радасьць і скруху.

З-за воблакаў месяц пасе
падзеі напятыя сутак . . .
Няпрошанай госьцяй прысеў
ля крыжа збуцьвелага смутак . . .

— — — — — — — — — — — —

І просіць, і моліць устаць
сыноў дарагая матуля,
абраз няўмірушчы Хрыста
да сэрца гарачага туліць:

— Зірнеце, саколы, з магілак сырых
на сьвет гэты Божы, на наскі!
Малюся і плачу, каб нашай зары
ізноў не пасеклі на часткі . . .

XVI

Ні матулі ні ейнага плачу
і ня чуюць сыны і ня бачаць.

Ані сонца, ні зораў, блакіту,
ані медзі ня бачаць ракітнай.

І зьнішчальны узьлёт навальніцы
не згадаецца ім, ня прысьніцца.

Прыняла іх зямліца ў пасьцелю —
вецер лісьцем курганы усьцеле.

Пракувае зязюля ураньні
пра ахвяры цяжкога змаганьня.

Неба хмары сівыя падоіць
і напоіць сыноў сырадоем . . .

✳

Сьпеце, сьпеце, крывіцкія воі,
ушануюць браты вашы мроі;

ушануюць і дзеці, і сёстры
сэрца жалем сьціскаючы гострым;

ушануе змагарныя чыны
Маці нашая, Маці-Айчына!

А зарою умыецца вечар —
прыйдуць маткі да вас і укленчаць . . .

І дзяўчаты, каб сны не каралі,
асыпаючы сьлёзаў каралі

на сьвяжуткі пясочак сыпучы,
засьпяваюць аб крыўдзе разлучын:

— Дзе-ж ты, любы сокал,
Дзе-ж ты, сінявокі? . .
Я журуся, я чакаю —
Любы, адгукніся! . .

Будуць дні і цалюткія ночы
гаварыць аб нядолі дзявочай,

шчасьце з даляў сваё будуць клікаць
па усёй па краіне вялікай:

— Я-ж кахала цябе, мая радасьць . . .
Помніш росныя сьцежкі у садзе? . .

Помніш рэчку, крынічка дзе звоніць? ·
Ты прыйходзіў ды з кветкай півоні . . .

Хвалі беглі, каціліся ў далі,
Кволя кветкі-півоні гайдалі . . .

Я-ж кахала цябе, мая радасьць . . .
Помніш росныя сьцежкі у садзе? . .

XVII

Плывуць жалобныя развагі,
плывуць і коцяцца паволі:
— Пад бел-чырвона-белым сьцягам
ляглі сыны за шчасьце волі . . .

— За рэкі й руністыя гоні,
за Край вазёр, красы і веры,
за гарт крывіцкая Пагоні
ляглі крывіцкія жаўнеры . . .

XVIII

Ёсьць такія, што кажуць гэтак:
«Нам сваё наймілей бывае,
няхай восень сабе ці лета
узьвівае свой сьпеў над краем . . .»

Хай што хочуць гаворыць людзі —
не такі ўжо вялікі грэх . . .
Сёньня тое злачынствам будзе,
калі думка чыя пампэ!

Не здалее ніхто на сьвеце
гадавацца, як трэба, жыць,
калі ўзьлёт іхны злосьнік вецер
разапне на шпянёх мяжы . . .

Чаго варта цяпер істота
у цяжкую жыцьця пару,
што наровіць, як смоўк, употай
прысмактацца да моцных рук?

Мо' таму й гнеў душу сьціскае,
і спадае сьляза з вачэй? . . .
Толькі грэшнік чужымі рукамі
на ражне славу дзён пячэ!

У мінуласьці — час пражыты —
думку продкі радзілі дням,
каб да сонца, крывёй абліты,
гонар Бацькаўшчыны падняць.

Шанаваць, сьцерагчы нам трэба,
гартаваць і далей расьціць,
каб пад родным, блакітным небам
накананаваны шлях прайсьці!

Хай шпуляе, ірве навальніца
набалелыя ніці надзей, —
хоць падзем —
можа стацца так —
ніцма,
але Краю ня зрадзім нідзе!

XIX

Прыдзем, вернемся ў бацькаву хату
сьвяткаваць найвялікшае сьвята;

сьвята мужнасьці, моцы і сілы,
што няволю ў змаганьні скасіла.

Маці стрэне, гасьцінна адчыніць
сэрцу блізкія дзьверы сьвятыні.

І памолімся, палячы сьвечы,
за шчасьлівую нашую вечнасьць.

Думы радасьці нашае — песьні —
узьлятуць у блакіт паднябесься . . .

Гэтак час пабудзіў і пакратаў
струны сэрца пад грукат гарматаў . . .

XX

Родная! Заві, хвалюй усіх нас;
высака
падымаць над неспакоем сьцяг —
сыноў прымусь.
Мы-ж крывёю
на шляхох стагодзьдзяў высеклі
несьмяротнае імя такое —
БЕЛАРУСЬ . . .

**Уладзімер Дудзіцкі**

---

І, помню, я на міг пахарашэў душою.
А можа не краса была ў дзяўчынцы той, —
Дзяўчынцы ўпэцканай, і кволай, і худой, —
А штосьць вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.

* * *

Балона лепшая ў штодзённіку жыцьця!
Зноў зь ціхай радасьцяй цябе чытаю я.
Хай шмат чаго ўжо з тых гадоў крыніца змыла
У памяці маёй, хай тэй дзяўчынкі мілай
Ўжо воблік губіцца у цёмнай глыбіне, —
Я веру, ў цяжкі час ён гляне на мяне.
1912

—◇—

## ВЭРАНІКА

**(Вершаванае апавяданьне)**

È un pensier del mio capo
(Яна — выдумка мае галавы).
Giovanni Prati

Я на душы вайсковай маю
Жыцьця мінулага пячаць:
Схачу свой вольны верш пачаць, —
І ўраз мінуўшчыну згадаю;
Удаль вядуць мяне сьляды
Да вас, дзіцячыя гады.

Ўстае перад маім паглядам
І вулка, веючая сном,
І ціхі, старасьвецкі дом
Зь цяністым і зьдзічэлым садам;
Над ім шпакоўніца ўгары,
А ўкруг сьхіліўся тын стары.

Дом гэты да паноў Забелаў.
Суседзяў нашых, наляжаў;
Я змалку там штодня гуляў;
Зь дзяцьмі іх лез на дахі сьмела,
Рваў яблыкі, рабіў садом
І крыкам поўніў цэлы дом.

Вясёла йшлі гулянкі нашы:
Пад шум і гук размах рукі
Зьбіваў здалёку гарадкі,
Чуваць быў сьмех, як „мала кашы",
І кажны сунімаў свой плач,
Калі ўразаўся ў плечы мяч.

А вечарком мы выпушчалі
Ў паветра белых галубоў:
Зрабіўшы некалькі кругоў,
У вышыню яны шыбалі,
Як чысты сьнег, кружылі там
І падалі на дахі к нам.

Калі-ж сачыўся бледнаваты
Зор сініх бліск празь небасьхіл,
І уплятаўся вулак пыл, —
Мы ўсе пяялі каля хаты,
І супаўняў нягучны хор
Маркотнай песьняй сьціхлы двор.

Так у гулянках пралятала
Маё дзіцячае жыцьцё,
А поруч ціхае дзіцё,
Дачка Забелаў, узрастала.
Яе я мала знаў: яна
Заўжды была сама, адна.

Жылося цяжка Вэраніцы
(Хай так дзяўчыну будзем зваць)
Яе памерла рана маць,
І ня было зусім сястрыцы,
А бацька сэрца хоць і меў,
Ды прытуліць яе ня ўмеў.

Таму з маленства палюбіла
Хавацца ў сад стары яна.
Дзе веяла дыханьне сна,
І цішыня ў паветры плыла,
І нярухомы быў спакой,
Маўляў у глыбіні марской.

Не калыхнула лісьця хвалі,
Ўспляснуўшы пенаю квятоў
Паўзьверх чарэшневых кустоў;
Кіпіць шум места дзесь там далей,
А тут і глуха і цямно, —
Не зварухне марское дно.

І забывала Вэраніка
Між зёлак з кніжкай аб усём,
А ўзгляне, — сад кіпіць жыцьцём:
Над ёю куст шыпшыны дзікай,
Бруяе блізка сонны чмель,
І горка пахне тонкі хмель.

Ізноў страніца па страніцы
Раскрытай кнігі шалясьціць;
Нячутна час кудысь бяжыць,
Раяцца думкі Вэраніцы, —
Усё расьце душа яе
І ў поўнасьці красы ўстае.

Калі-ж асеньнія навіны
Зьмянялі сад, калі зь бяроз
Рваў лісьце вецер, а мароз,
Наліўшы ягады рабіны,
Траву губіў, і мы нагой
Ўзрывалі пэрлы лісьцяў слой;

Калі патроху чырванелі
Чаромха, ліпа, стройны клён,
А гнёзды змрочныя варон
Між голага гальна чарнелі,
І грозны вечару пажар
Палаў між бура-шызых хмар;

# Да Маці...

**(Апавяданьне)**

**АД РЭД. Ніжэй зьмяшчаем апавяданьне, перасланае з Польшчы з просьбай надрукаваць яго ў «Бацькаўшчыне». Яно належыць пяру маладога Беларуса — аднаго зь дзесяткаў тысяч, лёс якіх закінуў у Польшчу.**

**Заклікаем і іншых нашых маладых суродзічаў прысылаць свае пробы пяра ў «Б-ну». Яна з ахвотай зьмесьціць іх на сваіх балонах ці дасьць адпаведныя парады.**

* * *

Сонца прыгравала ўжо ад самай раніцы, і цяпер пачало прыпякаць ненажарты. Неба над даляглядам было чыстае й блакітнае, як лязура. Воблакі адплылі ў далеч, ачышчаючы шлях вялікай агнявой кулі. Дрэвы, кусты, збожжа, трава, краскі стаялі нярухома, выпраменьваючы навокал сябе прыемны аж да ўдушша водыр. Буйнае калосьсе хілілася да зямлі, налітае маладым зернем. Часамі ціха шалясьцелі лісткі таполяў. Над палямі разлягаўся сьпеў жаўранкаў. Ластаўкі неспакойна сьцігалі з гары долу, пасьля зноў угару. На пашы каровы махалі галовамі й хвастамі, адганяючы кусьлівыя мухі й шукаючы халадка. Адчувалася нейкае няўлоўнае, нябачнае напружаньне. Шмат хто з тых, хто працаваў у полі, пачынаў разглядацца па небе, кідаў работу й зьбіраўся дамоў.

У невялікай вёсцы сярод зелені садоў, старых ліп і вязаў, панаваў супакой. Сонечныя праменьні няміласэрна пяклі шэрыя драўляныя будынкі, крытыя саломай; здавалася, што ўсё зараз загарыцца вялікім полымем. Вёска як вымерла. Толькі лёгкія дымы зь некаторых каміноў сьветчылі, што жывуць тут людзі. Выгляд хатаў гаварыў, што небагатае гэта жыцьцё й невясёлае. Але людзі жылі — працавалі, адводзілі душу сумнымі, прыгожымі песьнямі, і мроілі — чакалі лепшага.

У ваднэй з хат з кута ў кут неспакойна снаваў малы хлапчук. Надакучыла. Выбег на двор, заглянуў у гарод, зайшоў у хлеў, адрыну. Не знайшоў нікога. Бацька працаваў у полі, цётка пайшла да суседкі, а маці не вярнулася яшчэ з касьцёла. Ён быў яшчэ ў ложку ,калі маці, убіраючыся ў сьвяточнае адзеньне, гаварыла што йдзе да споведзі. Пагладзіўшы яго па льняных валасох, паабяцала, што хутка вернецца, і — няштодзённая справа! — прынясе цукеркаў.

Час ішоў, а маці не варочалася. Хлапчук яшчэ раз абгледзеў усе куты, заглянуў у гарод, панюхаў колькі кветак мальвы, пужаючы пчолы, і з умурзаным у жоўты пыл пляскатым носам, аглядаючыся на ўсе бакі, памаленьку, вузкай сьцежкай пайшоў насустрач мамы. Яна-ж, пэўна, зараз будзе йсьці. Тады будзе весялей.

Прайшоўшы гарод між канаплямі, апынуўся ён сярод зарасьлі над рэчкай. Пастаяўшы крыху, пайшоў далей. Мінуў грэблю, залітую вадой; затрымаўся перад доўгай, вузкай кладкай. Маці ўсьцяж яшчэ ня было відаць. Доўга прыглядаўся малым рыбкам, што мільгалі ў вадзе Пасьля задумаўся: пераходзіць на другі бок, ці не? Дый кладка такая вузкая. Але ахвота хутчэй сустрэцца з мамай перамагла страх, і пачаўся рызыкоўны пераход цераз кладку. Асьцярожна трымаючыся за апірышча й падпіраючыся знойдзеным на беразе кіем, ён бяз прыгодаў ,перабраўся на другі бераг. Ад кладкі сьцежка вілася якраз у кірунку касьцёла, вежы якога былі ўжо навет відны за невялікім узгоркам, што, пад подыхам яшчэ зусім нячутнага ветру, то сінеў лёнам, то шарэў-серабрэў нясьпелым жытам. Такая дарожка дадавала ахвоты да далейшага падарожжа, і хлапчук, падскокваючы на сваіх малых босых ножках, падсьпеўваючы нешта толькі яму зразумелае, тупаў далей. Мінуў стада авечак, што пасьвіліся адразу за рэчкай, пасьля ўвайшоў у сінія загоны лёну. Глянуў на вёску, што цяпер засталася даволі далёка ўзадзе і зноў падумаў: ці ня лепш вярнуцца? У тэй хвіліне жанчына, што палола лён, выпрастоўваючы свой збалелы ад даўгога нагінаньня крыж, заўважыла яго:

— Куды-ж ты йдзеш, хлопча?

— Да мамы!

— А чый-жа ты?

— Мамін! — коратка й весела адказаў той і пабег далей.

Увайшоўшы на ўзгорак, зь якога ўжо добра быў відаць касьцёл, затрымаўся. Так далёка сам ён яшчэ ніколі ня быў. Лепей спыніцца, падумаў ён. і тут пачакаць на маму. Сеў тады на мяжы, пачаў зрываць краскі, укладаць іх. Надакучыла. Зыйшоўшы крыху набок, пачаў будаваць хаткі зь пяску, уквечваючы іх калосьсем; зацікавіўся працавітымі мурашкамі, што жвава бегалі вытаптанымі імі дарожкамі; прабаваў лавіць матылькі, але былі хутчэйшыя за яго. Тут зусім нечакана села яму на руку цяцёрка-Божая кароўка. Падняўшы кулачок, пачаў пытацца яе так, як рабілі гэта ягоныя старэйшыя сябры:

Цяцёрка, цяцёрка, скажы
Ці будзе пагода, ці дажджы?
Калі будзе пагода — сядзі,
Калі будзе дождж — ляці!

Цяцёрка ня раз прабавала ляцець, але хлапчук, стараючыся не зрабіць ёй крыўды, пальцам прымушаў яе зноў складаць крыльле.

Заглыблены ў свае справы, хлопчык і не спасьцярог, што з захаду пачала насоўвацца, як сьцяна, цёмная хмара, закрываючы блакітнае неба. Урэшце яна глынула й сонца. Маланка ,а тут-жа за ёю й адрывісты гром змусілі хлапчука ўскочыць на ногі.

Спалоханы, аглядаўся навокал, але ўжо ня было відаць ані жанчын сярод загонаў, ані авечак. Спачатку кінуўся быў у бок вёскі, каб там шукаць прыпынішча, пасьля аднак завярнуўся й пабег у кірунку касьцёла, бо-ж там была ягоная мама — там толькі мог ён быць бясьпечным.

Маланкі, пяруны штораз сьціскалі страхам сэрца хлапчука. Хутчэй, хутчэй! Ягоныя дробныя ножкі тупалі па сьцяжынцы, спатыкаліся аб каменьне. У пакрытай кудлатым лёнам галоўцы была толькі адна думка: хутчэй да касьцёла — там мама! Яна прыгалубіць, схавае ад грому!

Зусім пацямнела. Ён ужо хацеў схавацца пад галінамі дзікай ігрушы, але чарговы гром з маланкай выгналі яго адтуль. Яму хацелася плакаць крычаць, але ад страху ня мог. Здавалася, вось-вось маланка спаліць яго, чорныя хмары назаўсёды адгародзяць яго ад мамы й ад вёскі. Але ён бачыў ужо мураваныя сьцены касьцёла, народны парахвіяльны дом, а за ім млын, краму й іншыя будынкі.

— А Божачка, каб-жа дабегчы, — думаў хлапчук, і апошнімі сіламі бег далей — ужо шырокім гасьцінцам, выціраючы вочы ад пяску, што гнаў віхор яму насустрач.

* * *

Ашалелая бура выгінала дрэвы аж да зямлі; некаторыя падалі, вырваныя з карэньнем. Покатам клаліся налітыя зернем нівы. Скошаныя капіцы сена віхор ірваў угару, і разам зь пяском з дарог і палёў разносіў па сьвеце; зрываў стрэхі, нішчыў будынкі. Пяруны білі адзін за адным. На небасьхіле зачырванеліся пажары. Сонца, здавалася, згасла.

Людзі думалі, што настаў канец сьвету. Запальвалі ў хатах сьвечкі, падалі перад абразамі на калені, із страхам паглядаючы ў цемру; малілі Ўсемагутнага, каб захаваў ім жыцьцё й ня помніў грахоў. Навет жывёла баязьліва забілася ў куткі. Дарогі апусьцелі. Урэшце лінуў дождж.

Не сядзелі дома хлапчукоў бацька й цётка. Яны бегалі ад хаты да хаты, ад гумна да гумна, заглядалі ў калодзеж, былі над рэчкай, у зарасьлях, гародзе... Прамоклыя, змучаныя, па некалькі разоў заглядалі ў тыя самыя месцы. Хлапца ня было, і ніхто ня мог сказаць, дзе ён дзеўся.

Ашалелая бура доўга зьдзекавалася над людзьмі й прыродай. Урэшце, насыціўшыся зьнішчэньнямі, супакоілася. Цётка плакала горкімі сьлязамі, бо яе была віна — не дапілнавала хлапца. Бацька ня знаў куды кінуцца.

А хлапчук, хоць і з пакалечанымі нагамі, але цэлы й здаровы, трымаючыся за руку маці, варачаўся дамоў. Ён быў шчасьлівы, што яму ўсё-ж удалося уцячы ад буры, дабегчы да народнага дому — а там была ягоная дарагая, адзіная мама. Цяпер ён туліўся да яе, падыходзячы да роднай хаты. Бацька, што стаяў у дзьвярох, пабачыўшы абодвых, адвярнуўся й выцер рукавом вочы.

**Я. Жывы**

**ПАВІНШАВАНЬНЕ**

**Беларуская Рэдакцыя радыя «Вызваленьне» вітае ўсіх нашых суродзічаў зь Вялікім Сьвятам Нараджэньня Хрыста і жадае беларускаму грамадзянству на эміграцыі плённага й шчасьлівага Новага Году ў прыватным жыцьці й змаганьні за нацыянальныя Ідэалы.**

**Беларуская Рэдакцыя радыя «Вызваленьне»**

# Мінулае й сучаснае

Апошнімі часамі на бачынках рэспубліканскага беларускага друку іншы раз можна сустрэць даволі цікавыя даведкі зь гісторыі беларускага мастацтва. У БССР засталіся яшчэ людзі, якія нажаль толькі ў дазволеных ім рамках, ня спыняюць такое-сякое дасьледнае працы, адшукваюць зерне пасеянае народам у культурнай галіне. Частка таго, што дасьледваецца трапляе й на бачынкі савецкага друку, бо-ж як-ні-як шыльда сувэрэннасьці БССР не дазваляе замоўчваць усяго. Аднак аб дасьледваньні ў поўным значаньні гэтага слова гаварыць не даводзіцца.

Крытык Абэцэдарскі разглядае матар'ял, апублікаваны С. Багуслаўскім у савецкім друку. Старадаўнія дакуманты сьветчаць нам, прыкладам, аб вялікім і актыўным удзеле Беларусаў у пабудове першага расейскага тэатру ў 1672 г. пры цары Аляксею Міхайлавічу. Аказваецца, што ў другой палове 17-га стагодзьдзя тысячы беларускіх кустароў-рамесьнікаў перасяліліся ў Расею, ня лічачы тых, што паходзілі зь беларускіх земляў, ужо тады акупаваных Маскоўшчынай. Сярод пасадзкага жыхарства Масквы было больш за дзесяць працэнтаў выхадцаў зь Беларусі. Яны былі добра знаёмыя з тэатральным мастацтвам, бо яшчэ да 17-га стагодзьдзя дзейнасьць царкоўнай і школьнай драмы на Беларусі была шырокаведамай і распаўсюджанай. Таму зусім зразумела й нявыпадкова тое, што ў якасьці першых актораў першага расейскага прыдворнага тэатру былі выкарыстаныя, і то галоўным чынам, Беларусы; яны прыхільна ставіліся да тэатральнага мастацтва, у той час калі Расейцы ня ведалі яго й ставіліся да яго адмоўна.

Беларусы былі прыцягнутыя й да справы тэатральнага афармленьня, дэкарацыяў, машынізацыі сцэны, бутафорыі й г. д., дзе таксама занялі амаль галоўнае месца. Дакуманты таго часу (кніга «Мяшчанская слабада» 1677 г.) часамі захавалі навет асаблівасьці беларускае мовы й належалі перасяленцам зь Беларусі. Тут паказаныя й шматлікія беларускія прозьвішчы ўдзельнікаў першага расейскага прыдворнага тэатру: актораў, будаўнікоў, тэатральных касьцюмэраў, машыністых сцэны й г. д.

Дакуманты падаюць даведкі й аб масавых запросінах у Маскоўшчыну сьпевакоў зь Беларусі. Гэтак, прыкладам, цар Аляксей запрасіў у Маскву полацкага сьпевака Івана Коклю разам з усёй сям'ёй. Зь Беларусі ў Маскву на запросіны прыяжджалі настаўнікі сьпеваў, што вучылі нотнага шматгалоснага пяяньня дзяцей маскоўскіх знатных чыноўнікаў (ваяводаў, д'якаў) і вучняў манастырскіх і царкоўных школаў.

Даволі цікавыя дадзеныя аб сувязях беларускага народу з тэатральнай дзеяй можна знайсьці ў ведамага расейскага тэатраведа Яўрэінава. У ягонай кнізе «История русского театра», выдадзенай у 1955 г. у Нью Ёрку, ён кажа. што беларускія калядныя абрады з выдатнай «Казой» лепш за ўсё пераконваюць **адкуль ідзе гэнэза драмы.** Да такога перакананьня прыйшлі, аказваецца, і ўсе фальклярыстыя, што працавалі на Беларусі. Зацікаўлены ў магчымасьці атрымаць матар'ял для гэнэзы трагэдыі ў старавечнай Русі, Яўрэінаў, не задумоўваючыся, накіроўваецца на Беларусь і запраўды ў вадной беларускай вёсцы (Бабіна каля Бабруйска) знайшоў і наглядаў трагэдыю ў ейнай першабытнай чысьціні.

У галіне беларускага музычнага мастацтва вельмі важнае дасьледваньне, як даведваемся з артыкулу С. Нісьневіч, было зроблена яшчэ ў 1887 годзе чэскім навукоўцам Л. Куба. У сваёй працы «Славянства ў яго песьнях» Куба адводзіць беларускай песеннасьці вялікае месца ў скарбніцы народнай песьнятворчасьці. Ён ня толькі гаворыць аб музычнасьці народных беларускіх твораў, аб шчырасьці беларускай народнай песьні, але й робіць спробу спыніцца на чыста музычнай пабудове беларускага фальклёру, яго асаблівасьцях ды інтанацыйнай, ладавай і мэтра-рытмічнай апрычонасьці. Куба сьцьвярджае таксама й існаваньне ўжо ў раньніх часох народнага двугалосься. Ён падае практычныя парады кампазытарам для апрацоўкі песьняў, гаворыць аб неабходнасьці веданьня **жывога выканальніцтва** й ягоных асаблівасьцяў.

Успомненыя дасьледваньні гавораць нам аб тым, колькі яшчэ новага можна даведацца з галіны беларускай культуры, як гэтая галіна яшчэ слаба й мала дасьледаваная. Як тут ня дзівіцца з тае ролі, якую адыгрывалі беларускія майстры ў культуры іншых народаў, з таго дабратворчага ўплыву, які рабіла беларуская культура на сваіх **малодшых** усходніх суседзяў — Расейцаў, а таксама й іншых суседзяў.

Насоўваюцца сумныя пытаньні: чаму-ж маўчаць аб усім гэтым савецкія беларускія дасьледнікі? Нам кажуць аб натхняльных умовах савецкай рэчаіснасьці, свабодзе, традыцыях успрыйманьня й г. д., а на справе выходзіць, што ўсё абмяжоўваецца ў найлепшым выпадку весткамі аб працах іншых, не сваіх. Значыць і далей існуе, як і існавала, боязь сярод навукоўцаў і дасьледнікаў БССР упасьці ў «сьмяротны» грэх нацыяналізму. Значыць і надалей аб'ектыўнае дасьледваньне беларускае культуры лічыцца ў БССР грэхам!

Хіба-ж не паказальны тут факт, што праца Л. Кубы аб беларускай песеннасьці, у якой **упяршыню** разглядаюцца пытаньні музычнае пабудовы песеннага фальклёру, важная ня толькі тэарэтычна, але й практычна, — дагэтуль не перакладзена на беларускую ні на расейскую мовы. У галіне беларускай старадаўняй культуры ў БССР ня йснуе ніводнага саліднага й паважнага выданьня: няма навет зборніка, дзе-б былі зьмешчаныя тыя артыкулы й зацемкі, што рэдчас трапляюць у савецкі друк.

Вялікая й багатая цаліна беларускай культуры гэтак і застаецца амаль што някранутай, чакаючы на свой час, на вольныя ад паняволеньня ўмовы.

**Мікола Кулікoвіч**

Калі асеньні вецер дзіка
Стагнаў і глуха па начах
Грымеў у наш зялезны дах, —
Тады да лета Вэраніка
Ад нас зьнікала ў інстытут
І ня будзіла згадак тут.

А час усё каціўся далей
Хаваючы на дне гадоў
І гарадкі і галубоў;
Мы няпрыкметна падрасталі,
А іншы ўжо шчыпаў вусы
Ды іх лічыў гарой красы.

І толькі ўжо тады я ўгледзеў.
Што поруч, як квяток лясны,
Ўзрасла ў красе свае вясны
Дачка самотная суседзяў.
І — помню я — тады-ж уперш
З мае душы паліўся верш.

Ён там кіпеў бруёй жывою,
Праз холад мысьлі працякаў
І ў цьвёрдых формах застыгаў,
Як воск гарачы пад вадою,
Каторым трэба вам гадаць,
Аб чым той вершык меў казаць.

Я-ж сам скажу йшчэ тое толькі,
Што к Вэраніцы твор паслаў
І млеў і ўсё адказ чакаў.
Аж вось прайшло маруды колькі
Трывожных дзён, а ўсё няма
Ні Вэранікі, ні пісьма.

Калі-ж я неяк зь ёй спаткаўся,
Загаварыўшы, як у сьне, —
Яна зірнула на мяне,
І раптам з вусн яе зырваўся
Такі бязьвінны, чысты сьмех,
Што на яго злавацца — грэх

Сьмех гэткі маюць толькі дзеці
Ды людзі зь яснаю душой;
І ён, як жазаранак той,
Зьвінеў і ўжо каханьня сеці
Нячутна нішчыў, як ураз
Зырваўся, здрогнуў і пагас.

Накрыла ясны твар дзявочы
Задумы сумная імгла,
На плечы ручка мне лягла,
Спагадліва зірнулі вочы
І даляцеў к маім вушам
Ласкавы шэпт: „Мо прыкра вам?"

Не, зорка, мне ня прыкра болей.
Бо бачыла адно душа,
Як ты сьвяжа і хараша,
Як рада ты жыцьцю міжволі,
Уся пад срыбнаю расой
Зь істужкай сьціплай між касой.

І мела дзеўча выгляд маці,
Калі тады ка мне яна,
Трывожнай ласкаю паўна,
Сьхілілася, як да дзіцяці,
Зіяючы перада мной
У новай пекнасьці жывой,

У тэй, што з постацяй дзяўчыны
Зьлівала мацеркі чырты.
О, як прыгожы-дзіўны ты,
Двайной красы аблік адзіны!
Ажыў у ім твой вечны цэль,
Мадон тварыцель, Рафаэль!

І прад высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Скланіўся я душой маёй,
Натхненнай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было,
Там запалілася цяпло.

Дасюль яшчэ яно палае;
Здаецца — ўмерла, але ўраз
Праб'ецца зноў, і пройшлы час
Прад ім у згадках праступае,
Як пры агні ці цеплаце
Таёмны надпіс у лісьце.

І конь крылаты да Парнасу
Мой дух імчыць тады, каб я
Былое апяваў пасьля.
Ды як знайсьці сьляды Пэгаса
На бруку места? Цяжка ўперш!
Спачынь-жа трохі, верны верш!
1912

## Каханьне й сьмерць

**(Жнівень-кастрычнік 1912)**

* * *

Хоць мы былі адны ў той час —
Я і зірнуць ня сьмеў на Вас,
І тое, што тады зрабілася,
Зьнянацку выйшла, але ўраз.

Ня помню, як — я ручку ўзяў,
Ня помню, як —пацалаваў,
Ціхутка пальчыкі цалуючы,
Як да дзіцёнка, ўлад казаў:

«Сарока-варона кашку варыла,
Дзетак карміла;
Гэтаму дала, гэтаму дала,
А гэтаму не дала:
Ты малы, ты дурны, табе кашка на палічцы
Ў чарапічцы.
Шух, шух, паляцелі
На другую ручку селі».

**(Далей будзе)**

